АЛЯКСЕЙ КОРШАК

## Сябру

Не знайсці спакою ў гэты вечар,
Патушыла зоры неба столь.
Успамін ніжэй згінае плечы
У сэрца госцем уваходзіць боль.
Нейкі сум пякучы голаў кружыць,
Прыліпае цемра да акон.
Дзе ты родны, дзе ты любы дружа?
Да мяне прышоў-бы хоць-бы ў сон.
Хоць-бы ў сне цябе абняў-бы цесна,
Наглядзеўся-б шчырых сініх воч,
І радзілася-б такая песня,
Што яе заслухалася-б ноч.
Не ідзеш ні ў яву, светлы, шчыры,
Ні у сны трывожныя мае.
У далёкай недзе ты краіне,
Як ланцуг валочыш дні свае.
І табе туга ўсцінае сэрца,
Не знаходзіць смутак берагоў...
Я хацеў-бы ў гэты час данесці
Да цябе хоць пару цёплых слоў.
Можа-б злосны сум той знікнуць мусіў.
Каб дазнаўся ты, што ў гэты час
У далёкай, любай Беларусі
Успамінаюць аб табе не раз.

## Паранены

От і ўсё... За светлы край азёрны
За вясну ў палёх,
Неба сіняе ў кроплях зорных
Я навек тут лёг.

Над мной шуміць ракіта кволая,
Пада мной трава.
Сыплецца на сэрца невясёлае
Злой тугі жарства.

Бачу неба сіняе і блізкае
У астатні раз,
Меншыцца яно, маланкай бліскае,
Пачарнела ўраз.

Дзесьці плача кнігаўка... Ці маці...
Мама, бліжай сядзь,
Хочу глянуць, хоць крыху абняці —
Галавы не ўзняць.

Што-ж ты не прытулішся, матуля?
На мяне хоць глянь,
Гіне сын героем твой ад кулі,
Каб квітнела рань.

Што з табою? Плачаш... З воч блакіту
Цэлы лівень слёз...
Адчыняю вочы. Спіць ракіта,
Дождж шуміць між лоз.

Плача кнігаўка ўгары, як маці
Па дачцы ў труне.
Птушанька мая ты, кінь рыдаці,
Не шкадуй мяне.

Я-б закрыў навек спакойна вочы,
Каб мой любы край
Больш не ведаў злой пакуты ночы,
Красаваў, як май.

Каб хадзіў навокал спеў мінорны,
Што я ў бітве лёг,
За прыгожы родны край азёрны
За вясну ў палёх.

1942 г.

## Рэха

Думы гадуючы тайныя
Блукаю ў лесе адзін,
Слухаю казкі бяскрайнія
Сосен, вясны і далін.

Белыя воблакі пеняцца,
Месяц павіс, як дуга.
Дзе мне дзяўчына сустрэнецца,
Цераз якую туга?

Сэрца журбою авеяна,
Хвойны хваліоецца схоў.
Кідаю лесу я: — Дзе яна? —
Прыгаршчы звонкіх слоў.

— Можа на станцыі ўзрушанай,
Можа на чоўне плыве?
Можа бадзяцца прымушана
Па сенажаці ў траве?

Можа па вуліцы ў горадзе
Зноўку ідзе ў інстытут?
Рэха здалёку, аж зоры дзе,
Выбегла, крыкнула: — Тут!

Крочу ў кусты кучаравыя,
Ускінуўшы неба парчу.
Зорам, прасторам і травам я
— Гэта няпраўда! — крычу.

— Хлусіш ты, мусіць, ад сілы ўсёй,
Звонкіх прастораў мастак!
Рэха ў кустах пакацілася,
Рэха згадзілася:
— Так!..

1940 г.

## Песняру

Трэба мець такое сэрца ў грудзях,
У якім мясціўся-б цэлы свет:
І снягамі высыпаны студзень,
І маёвы бэзу сіні цвет,
Восеньскія жудасныя ночы
Спевы салаўіныя вясны...
Нават дзён крывавых прывід змрочны,
Нават нашыя надзеі й сны.
Кожная травінка і усмешка
Месца адшукае сабе хай...
Толькі ідучы жыццёвай сцежкай,
У няволю сэрца не прадай.
Як дзяціны ўсмех, хай чыстым будзе...
І калі сапраўдны ты паэт,
Трэба мець такое сэрца ў грудзях,
У якім мясціўся-б цэлы свет.

*Аляксей Коршак — малады таленавіты беларускі паэт — загінуў у бойцы з нямецкімі захопнікамі 27 лютага 1945 года на польскай зямлі.*

*А. Коршак нарадзіўся ў 1920 годзе ў в. Вуглы Капыльскага раёна. Перад вайной быў студэнтам літаратурнага факультэта Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага. Вершы яго друкаваліся на старонках газеты «Літаратура і мастацтва» і «Чырвоная змена», а пасля яго смерці ў часопісах «Полымя», «Беларусь» і ў кнізе - зборніку загінуўшых паэтаў «Мы іх не забудзем».*

*Вершы «Сябру», «Рэха» і «Песняру» публікуюцца ўпершыню.*

# Сельскагаспадарчыя парады

## Зімаванне пчол

*Практыка паказала, што зімою пчолам больш шкодзіць голад ніж холад, бо калі ў вуллі бывае часам і халаднавата, то пчолы ўзімку толькі больш корму з'ядзяць, аднак вясною будуць здаровыя. Але, калі ім забракуе яды — то і ў сакавіку месяцы па 3—4 днях галадоўкі, вымруць.*

*Выбіраючы мёд у канцы лета, трэба заставіць у адным гняздзе 4—5 кг. мёду і дабавіць густага сірапу з 8 кг. цукру. Гэтага корму хопіць пчолам да месяца чэрвеня, калі пачынаецца галоўны збор мёду.*

*Маючы даволі цукровага сіропу, пчолы не хварэюць і добра множацца. Аднак, каб маладыя пчолкі вырасталі большыя і былі сільнейшыя, трэба пчаліныя чарвячкі карміць не сіропам, толькі мёдам. І на гэта прыдасца мёд пакінуты ў вуллі ў канцы лета. Сіроп цукровы даваць пчолам у месяцы жніўні або ў першай палове верасня. Калі даць пазней — то пчолы не паспеюць перарабіць яго на мёд, а ў такім выпадку спажываючы ўзімку сіроп, маглі-б захварэць на бягунку.*

*У нас мацнейшыя марозы бываюць нядоўга, таму апакаваныя пчолы зімуюць добра і там, дзе вуллі стаяць летам. Аднак каб пчолы за зіму з'елі менш мёду, і каб ім не дакучаў зімовы халодны вецер, трэба ўнесці вуллі ў якую-небудзь шопку, або халодны будынак з чыстым паветрам і такі, у якім пчолам не дакучаў-бы шум ці стукат.*

*Каб пчолы за зіму не аслабелі, трэба на пачатку лістапада абяспечыць ад холаду іх гнёзды. Не добра робіць той пчаляр, які да гэтага карыстае сенам або атавай, бо тады ў вуллях робіцца вільгаць і пчолы пагіраюць. Найлепш ацяпляць гнёзды матамі, пашытымі з простай саломы. Тыя маты трэба шыць шпагатам, каб былі цвёрдыя і тоўстыя на 5 см. Кладуць іх па дзве на гняздо і з таго боку гнязда, дзе найбольш пранікае холад у вуллі. Калі праз дашок вулля не будзе працякаць вада, а з боку, або ўгары гнязда будзе шчылінка для адыхода спажытага паветра, і калі вылёт з вулля не будзе затканы — то пчолы перазімуюць добра.*

*І. ЕВЕЦ*

# Куток гаспадыні

## Карысна ведаць

■ У клубнях бульбы, якія прараслі і пазеляненелі, знаходзіцца шкоднае рэчыва — саланін. Таму такія клубні рэкамендуецца варыць ачышчанымі, разам з лупінамі трэба здымаць і значны слой мякаці з вочкамі і пазелянелымі ўчасткамі.

■ Калі цыбулю чысціць і рэзаць каля запаленай печы, газоўкі, пліты, вочы не будуць слязіцца.

■ Пры чыстцы слізкай рыбы, апусціце папярэдне пальцы ў соль. Гэта аблегчыць працу.

■ Каб захаваць мяса свежым, лепш за ўсё трымаць яго на лёдзе. Але калі няма лёду або халадзільніка, а таксама спецыяльнага халоднага памяшкання, напраклад, склепа, можна абгарнуць мяса ў мокры ручнік і пакласці яго ў гліняную пасуду. Змясціць пасуду ў другі сасуд, поўны халоднай вады, у які ўсыпаць адну-дзве жмені солі, і паставіць яго ў халоднае месца.

■ Лепш за ўсё мука захоўваецца ў мяшках, паколькі праз мяшкі праходзіць неабходная колькасць паветра з усіх бакоў. Мяшок не рэкамендуецца насыпаць поўны. Час-ад-часу яго трэба паварочваць з аднаго боку на другі. Не трэба трымаць муку ў драўляных скрынках, бо яна лёгка ўспрымае затхлы пах дрэва.

■ Ікра кетавая, паюсная, зярністая доўгі час не высыхае, калі ў слоік з ікрой зверху наліць тонкі слой алею і шчыльна закупорыць яго.

## Падрэчанскія кудзельніцы

— Мама, заўтра вечарам прыдуць кудзельніцы да нас. Трэба ў хаце зрабіць парадак. Пэўна і хлопцы прыдуць. Зіна гаворачы матцы аб кудзельніцах, адразу чамусьці ўспомніла Колю Якімюка. Яна глыбока ўздыхнула...

— Ён усім дзяўчатам падабаецца — думала. Кожная дзяўчына вельмі задаволеная, калі Коля з ёю даўжэй пасядзіць — пажартуе, калі папросіць танцаваць на забаве. І Зіне здавалася, што яна цяпер з Коляй танцуе, ды неяк незвычайна танцуе, так як ніколі не танцавала, а ў вушах гучыць яго прыгожы звонкі голас. У гэты момант Зіна заглядзелася недзе ў даль быццам убачыла сваю будучыню — сябе і Колю неразлучных навек.

Мабыць няйначай думаюць аб гэтым хлопцу Валя і Вера, Аня і Оля, а таксама і іншыя дзяўчаты.

Калі Коля разам з сваімі сябрамі прыдзе на кудзельнік — дык адразу весялей ў хаце робіцца. Зараз-жа Марыся Якімюк — так сказаць вадзірэй сярод дзяўчат — заводзіць песню «Куды вядзеш трапінка мілая». Зіна Самойлюк падсоўваецца з калаўроткам бліжэй Марысі і падхоплівае мелодыю, а за імі тады спяваюць усе дзяўчаты і хлопцы. Прыгожа, вельмі прыгожа спявае падрэчанская моладзь. Аж душа напаўняецца радасцю, што ў далёкай, закінутай, маленькай беларускай вёсцы ёсць такая таленавітая моладзь.

Дзяўчаты не толькі прыгожа спяваюць. Яны таксама прыгожа вышываюць і прыгожыя світэры робяць. Вось, напрыклад, Оля Сіроцкая славіцца ў вёсцы сваёй працавітасцю — яна прыгожа вышывае парчы, а краўчыха Вера Несцярук, што заўсёды сукенкі шые на шлюб дзяўчатам, вельмі добра вяжа світэры. Усе падрэчанскія дзяўчаты працавітыя і здольныя.

Часам прыдзе з калоніі гарманіст, Вася Якімюк. На дзіва йграе гэты Вася. Як урэжа польку — дык дзяўчаты і хлопцы не могуць усядзець. Але пасля некалькіх танцаў ізноў сядаюць на свае мейсцы і бяруцца за работу. А хлопцы, вядома, падсядаюць і жартуюць.

Падрэчанская моладзь захоўвае яшчэ старыя звычаі. Напрыклад: калі настае пост — тады ніхто не танцуе і не спявае ніякіх песень апрача каляндных. На першы дзень каляд падрэчанская моладзь, пойдзе валокаць. Так штогод бывае: бяруць 12-раговую звязду і ідуць ад хаты да хаты спяваць калядныя песні. За грошы, што завалокаюць на наступны дзень вечарынку спраўляюць.

Вось так праводзіць доўгія вечары моладзь ў вёсцы Падрэчаны ў Бельскім павеце.

М. Х.

## Шаўкапрад

100 шаўкапрадаў з'ядаюць за час свайго развою (35 дзён) 3 кілограмы лістаў шаўкоўніцы. Кожны чарвяк прадзе кокан, які складаецца з ніткі даўжыні да 3 1/2 кілометра.

Гадоўля шаўкапрадаў вядомая была ў Кітаі 5.000 год таму назад. Вываз заграніцу шаўкапрадаў быў забаронены пад пагрозамі кары смерці. Міма гэтага адзін нямецкі князь прашмугляваў іх у дзіцячай шапачцы і з таго часу гадоўля чарвяка пашырылася ў Еўропе.

